


# Ахова птушак Бацькаўшчыны

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ




www.ptushki.org

№ 1 (44) - 2011



Новы старшыня АПБ Аляксандр Вінчэўскі. Фота С. Зуёнка

## XIV З'езд АПБ

**Чарговы З'езд АПБ адбыўся 29 студзеня 2011 г. Дадзены З'езд мы пастараліся зрабіць непадобным на іншыя. Адразу каля сталоў з рэгістрацыяй удзельнікі маглі палюбавацца на птушак, што прыляцелі на кармушку, у аб'ектыў падзорнай трубы. На гэтай жа кармушцы была ўстаноўлена відэакамера, з якой вялася прамая трансляцыя ў будынак РЭЦДЮ.**

У выставачнай залі традыцыйна была прадстаўлена выстава найлепшых мастацкіх работ, адабраных на конкурсе "Птушка года", а таксама выстава фіналістаў конкурса "Птушка ў аб'ектыве-2010". Тут жа кожны змог далучыцца да творчасці – пагаварыць з аўтарамі малюнкаў, вырабіць з дапамогай майстра гліняныя медальёны з выявай разнастайных птушак, у тым ліку і з птушкай 2011 года – вялікім кулёнам.

Удзельнікі З'езда маглі бліжэй пазнаёміцца з праектамі арганізацыі, а таксама дасласць паштоўку АПБ сваім сябрам. Акрамя таго, у перапынках гучалі класічныя творы ў выкананні фартэпіяна і скрыпкі.

Традыцыйна на З'ездзе ў выглядзе конкурса падводзяцца вынікі работы аддзяленняў за год. У гэтым годзе месцы конкурса размеркаваліся наступным чынам: 1 месца – Заходне-Палескае рэгіянальнае аддзяленне, 2 месца – Шумілінскае раённае аддзяленне і 3 месца – Слуцкае раённае аддзяленне.

Адной з цэнтральных падзей З'езда сталі маштабныя выбары – Старшыні АПБ, членаў Цэнтральнага Савета (6 чалавек) і Рэвізійнай камісіі (3 чалавекі). Па выніках галасавання новым Старшынёй АПБ стаў Аляксандр Яўгенавіч Вінчэўскі, першы дырэктар АПБ (1999-2006).

Членамі Цэнтральнага Савета сталі: Віталь Гуменны (г. Гродна), Уладзімір Іваноўскі (г. Віцебск), Міхаіл Нікіфараў (г. Мінск), Наталля Парэчына (п. Гатава Мінскі р-н), Мікалай Чэркас (в. Ляцкія Камянецкі р-н Брэсцкая вобл.), Васіль Грычык (г. Мінск). Не перавыбіраліся ў гэтым годзе і працягваюць працаваць у Цэнтральным Савеце Андрэй Абрамчук (в. Олтуш Маларыцкі р-н Брэсцкая вобл.) і Аляксандр Казулін (г. Мінск).

Членамі Рэвізійнай камісіі сталі Аляксандр Сербун (г. Брэст), Генадзь Міндлін (г. Мінск) і Дзмітрый Вінчэўскі (г. Гродна).

## Сокал-падарожнік: мэта вандроўкі – Беларусь

**11–12 лютага ў Мінску адбылася Першая міжнародная рабочая сустрэча па ўзнаўленню і ахове папуляцыі сокала-падарожніка (Falco peregrinus) у Беларусі.**

Сокалы-падарожнікі (рус. сокол-сапсан) – самыя хуткія жывыя істоты на Зямлі. Падчас пікіравання на сваю здабычу яны могуць развіваць хуткасць да 389 км/г! У мінулым Беларусь уваходзіла ў арэал сокала-падарожніка. Цяпер можна сустрэць толькі некалькі птушак падчас зімовак ці міграцыі. У сярэдзіне XX стагоддзя колькасць сокала-падарожніка катастрафічна знізілася паўсюдна, галоўным чынам у выніку масавага ўжывання сумнавядомага пестыцыда ДДТ. У Беларусі апошняе гнездаванне вандроўнага сокала было зафіксавана ў 1973 г. на адным з балот Віцебшчыны.

Праграмы ратавання сокала-падарожніка ў ЗША і Германіі сталі аднымі з першых паспяховых праграм такога кшталту ў свеце. Але сокалы ўзноўленай папуляцыі ўпадабалі гарадское асяроддзе з яго скалападобнымі высотнымі будынкамі і шматлікімі зграямі воранавых, частка абжылася ў гарах. У той самы час, лясная, надрэўная папуляцыя раўніннай Еўропы не аднавіла свайго колішняга суцэльнага арэалу.

Першымі аднаўленне надрэўнай папуляцыі сокала пачалі нямецкія навукоўцы ды энтузіясты, потым да іх далучыліся польскія калегі. У мэтах стварэння цэласнага арэала надрэўнай папуляцыі да іх далучаюцца і аднадумцы з Беларусі. Менавіта гэтаму і была прысвечана сёлетняя канферэнцыя ў Экалагічным цэнтры.

Удзельнікі сустрэчы заслухалі даклады, прысвечаныя гісторыі знаходак сокала-падарожніка ў Беларусі, польскаму і нямецкаму досведу аднаўлення ляснога экатыпа сокалаў, паглядзелі фільм пра рэінтрадукцыю сокала-падарожніка ў Польшчы. У выніку сустрэчы былі распрацаваны нарысы нацыянальных планаў па ахове і рэінтрадукцыі сокала, якія пасля дапрацоўкі будуць прадстаўлены на афіцыйнае зацверджанне.

Пасля гэтага можна будзе брацца за непасрэдную рэінтрадукцыю сокала. Маладых сокалаў, якія з'явіліся на свет у пітомніках, пачынаючы з двухтыднёвага ўзросту трымаюць у клетках, замацаваных высока на дрэвах, бо лічыцца, што выбар спосабу гнездавання ў іх адбываецца ў выніку з'явы імпрынтынгу. Іншымі словамі, сокал



Сокал-падарожнік. Фота С.Зуёнка

абярэ для гнездавання дрэва з большай імавернасцю, калі ў свой час ён вылецеў менавіта з гнязда (ці клеткі) на дрэве.

Справа ўскладняецца тым, што самі сокалы гнёздаў не будуюць, а «кватаруюць» у гнёздах іншых драпежнікаў, чорных буслоў ды іншых птушак. Таму ў раёне выпуску сокалаў-падарожнікаў усталёўваюць штучныя гнёзды. Няўмольная статыстыка гаворыць, што да 70% выпушчаных птушак не дажываюць да гадавалага ўзросту, пры тым, што размнажацца птушкі пачынаюць толькі на трэці год жыцця. Не так даўно сайт www.birdwatch.by паведаміў пра пагібель апошняга з шасці польскіх маладых сокалаў, пазначаных спадарожнікавымі перадатчыкамі. Пры гэтым няма ніякай гарантыі, што птушка, якая выжыве і створыць пару, не абярэ замест жаданага для прыродаахоўнікаў сасновага бору «каменныя джунглі» альбо не адляціць з Беларусі ў пошуках лепшага гнездавога ўчастка: гэты сокал нездарма называецца вандроўным – дзякуючы сваім адметным лётным якасцям, від апанаваў усе кантыненты, акрамя Антарктыды.

Але іншай рады няма: калі мы хочам, каб гэтая шанаваная нашымі продкамі са старажытных часоў птушка, не аднойчы ўзгаданая яшчэ ў Статуце ВКЛ, сапраўдны сімвал імклівасці, хуткасці і адвагі, вярнулася на Радзіму, давядзецца прайсці доўгі шлях, прыкласці шмат высілкаў і, быць можа, перажыць не адно расчараванне. І тады, магчыма, нашы нашчадкі будуць памятаць, што гэты шлях пачаўся ў лютым 2011 года ў Мінску.

**Святаслаў Валасюк, намеснік дырэктара па прыродаахоўнай дзейнасці**

# Зимние учеты птиц-2011

## Итоги зимних учетов водоплавающих и околоводных птиц на территории Беларуси

Всего в зимних учетах водоплавающих птиц приняло участие более 110 анкет, что практически в 2 раза меньше по сравнению с прошлым годом. Что касается площади покрытия учетами, то она сократилась практически на порядок. При этом количество учтенных птиц осталось практически на одном уровне, если учитывать суровые погодные условия в данном сезоне. Это связано с полным покрытием основных мест зимовок.



Распределение основных мест зимовки

Всего учтено свыше 11 тыс. относящихся к 28 видам зимующих на территории Беларуси водоплавающих и околоводных птиц; полный перечень учтенных видов и их численность можно посмотреть на сайте АПБ.

Как и в прошлые годы, основным местом зимовки водоплавающих птиц является г. Минск – почти 6 тыс. птиц, затем идут г. Новолукомль – более 3 тыс., г. Барановичи – более 2 тыс., все остальные точки меньше тысячи.

**Иван Богданович, координатор зимних учетов водоплавающих птиц**

Места распределения основных мест зимовок.




## Подведены итоги зимних учетов птиц-2011. Количество участий в наблюдениях за птицами составило 1 459


Редкий гость на кормушке – седой дятел. Фото О. Лукшиц

Из птиц, обитающих в лесах, на полях, в садах и парках, отмечены 62 вида. Редкие, занесенные в Красную книгу РБ, виды птиц представлены орланом-белохвостом, обыкновенной пустельгой, воробьиным сычем, зеленым и трехпалым дятлами, хохлатым жаворонком, белой лазоревкой.

Наиболее часто наблюдаемыми птицами стали сизый голубь, полевой воробей, грач, домовый воробей, большая синица, галка, серая ворона. Увеличилось количество наблюдений свиристелей, длиннохвостых синиц, снегирей и обыкновенных овсянок. Общее количество наблюдаемых птиц составило 40 228 особи.

АПБ благодарит всех участников наблюдений и напоминает, что ко Дню птиц (1 апреля) среди участников будут разыграны главные призы учетов – полевые бинокли. Желаем удачи и интересных встреч в природе!

### Птицы на кормушке

В 2011 году на кормушках отмечено 34 вида птиц. Почти 11 000 пернатых прилетали подкормиться на специально обустроенные подкормочные площадки, кормовые столики и другие кормушки самых разных конструкций и размеров. Наиболее часто наблюдаемая птица, посещающая кормушки в зимний период, – большая синица. Далее, традиционно массово наблюдались полевые и домовые воробьи.

Интересные наблюдения провела специалист АПБ Ольга Лукшиц. В Логойске на своей кормушке она наблюдала седого дятла. Птица прилетала полакомиться несоленым салом. Ранее этот вид на кормушках мы не отмечали. Хотя его близкий родственник – зеленый дятел – в прошлые годы на кормушках отмечался.

Любопытно было наблюдать на подкормочных площадках перелетных птиц – зябликов. На кормушку они летят неохотно, чаще собирают корм на земле. В нынешнем году снова на зимовке отмечались скворцы.

На территории Республиканского экологического центра детей и юношества в Минске, кроме других, птиц всю зиму держался черный дрозд и несколько рябинников. Дрозды неохотно летели на кормушку. Черный дрозд регулярно кормился мерзлыми яблоками, разложенными возле кормушек на земле.

На юге страны на подкормочной площадке отмечались хохлатые жаворонки. Эта птица занесена в Красную книгу РБ. Регулярно отмечались на кормушках зеленушки, снегири, поползни, дубоносы. В небольшом количестве на кормушках видели чижей и черноголовых щеглов.

Наибольшую активность в подкормке и наблюдениях за птицами на кормушке проявили жители Слуцкого и Мядельского районов. В качестве поддержки наиболее активных отделений, секретариат предоставил полноцветные щиты «Пакарміце птушак узімку», которые будут установлены в городах в следующем сезоне.

Более подробную информацию о зимних учетах смотрите на сайте АПБ.

**Руслан Шайкин, специалист по экологического образованию**

## Пустальга пяром і пэндзлем


Малюнак А. Шаўчэнка



Плакат К. Суворавай



Мастацкі выраб А. Бараздакова

На мастацкі конкурс кампаніі “Звычайная пустальга – птушка 2010 года” паступіла 627 работ. Найбольш актыўнымі ўдзельнікамі сталі школьнікі з Барысаўскага раёна, дзе на конкурсе было прадстаўлена каля 150 работ.

**У намінацыі “Малюнак” прызёрамі сталі:**
Аляксандр Шаўчэнка са Слоніма – 1 месца,
Аляксандр Жук з Мінска – 2 месца,
Аляксандр Сінькевіч з Барысава – 3 месца.

**У намінацыі “Плакат”:**
Кацярына Суворава з Барысава – 1 месца,
Надзея Лазерка з Барысава – 2 месца,
Вікторыя Алісейчык з Мінска – 3 месца.

**У намінацыі “Выраб”:**
Аляксандра Барздакова з Барысава – 1 месца,
Анастасія Мазалюк з Пінска – 2 месца,
Раман Зязюлька з в. Сураўні Шумілінскага раёна – 3 месца.

У літаратурным конкурсе прыняло ўдзел 130 чалавек, якія падрыхтавалі 112 работ. Месцы размеркаваліся наступным чынам:
1 месца – Яна Мельнікава з в. Ракаў Валожынскага раёна,
2 месца – Ягор Фомкін з Барысава,
2 месца – Уладзіслаў Буяк з в. Неманіца Барысаўскага раёна,
3 месца – Марыя Кухто з Барысава,
3 месца – Ганна Фамічова з в. Ноўка Віцебскага раёна.

**Усе прызёры атрымалі прызы.**

Віншуем прызёраў і запрашаем усіх ахвотных прыняць удзел у мастацкім і літаратурным конкурсах кампаніі 2011 года, прысвечанай вялікаму кулёну.

**Руслан Шайкін, спецыяліст па экалагічнай адукацыі**

# Вялікі кулён – птушка 2011 года


Фота Дз. Якубовіча

**Нацыянальная кампанія «Птушка года» праводзіцца АПБ з 2000 года. Мэта кампаніі – заахвочванне насельніцтва да актыўнай аховы птушак. Штогод АПБ выбірае від птушак, які мае пэўныя праблемы і патрабуе нашай увагі і дапамогі. У папярэднія гады птушкамі года былі белы бусел, белая пліска, авяльга, дамовы верабей, гарадская ластаўка, барадатая кугакаўка, кнігаўка, звычайны салавей, вялікая белая чапля, шэрая гусь, сокал-пустальга.**

## Мастацкія конкурсы

Мэта конкурсаў: паказаць прыгажосць вялікага кулёна, цікавыя асаблівасці яго жыцця, праблемы і магчымыя шляхі іх вырашэння. Падказка для ўдзельнікаў: калі ў пошукавай праграме набраць пазначаныя вышэй назвы вялікага кулёна на розных мовах, то можна знайсці цікавыя фотаздымкі кулёна як прыклад для малявання. Мастацкія работы будуць ацэньвацца ў трох намінацыях.

Лепшы малюнак вялікага кулёна. Для гэтай намінацыі прымаюцца мастацкія работы з выявай вялікага кулёна, якія паказваюць яго цікавыя паводзіны ці звычкі. Фармат малюнка – А4 ці А3. Яны могуць быць выкананы фарбамі альбо каляровымі алоўкамі.

У намінацыі "Лепшы прыродаахоўны плакат" будуць ацэньвацца работы, у якіх адлюстроўваюцца праблемы вялікага кулёна і, па магчымасці, варыянты вырашэння гэтых праблем. Для падрыхтоўкі плакатаў прапаноўваюцца праблемы асушэння балот, вясновыя палы і г.д. На плакаце павінен быць слоган. Фармат А3. Плакаты могуць быць выкананы фарбамі альбо каляровымі алоўкамі.

Лепшы мастацкі выраб. Конкурсныя работы павінны быць выкананы з гліны, саломкі, паперы і іншага матэрыялу, за выключэннем пластыліну.

Конкурс праводзіцца ўдва этапы: рэгіянальны (абласныя і мінскі гарадскі) і рэспубліканскі. Пры функцыянаванні ў рэгіёне мясцовага аддзялення АПБ, гэта аддзяленне можа каардынаваць рэгіянальны этап у сваім рэгіёне.

Малюнкі, плакаты і вырабы прымаюцца да 15 верасня ў рэгіянальныя каардынацыйныя цэнтры з адзнакай "Птушка года":

- Брэсцкая вобласць: Кіцель Дз.А., Заходне-Палескае рэгіянальнае аддяленне АПБ, а/с 38, г. Брэст, 224010
- Магілёўская вобласць: Бубнова Ж.А., Цэнтр экалагічнага выхавання, вул. Альхоўская, 2-б, г. Магілёў, 212017
- Гродзенская вобласць: Вінчэўская А.В., Гімназія №1 імя акадэміка Я.С. Карскага, пр-т Я. Купалы, 82 г. Гродна, 230010
- Гомельская вобласць: Хлебін Р.Ф., Гомельскі дзяржаўны абласны эколага-біялагічны цэнтр дзяцей і моладзі, вул. Ірынінская, 18а г.Гомель, 246050
- Віцебская вобласць: Сінкевіч І.У., Шумілінскі Цэнтр пазашкольнай работы, вул. Ленінская, 22, г. п. Шуміліна, 211260
- Мінская вобласць: Паршута А.В., Мядзельская САШ №1 імя У.М. Дубоўкі, вул. Ленінская, 2 г. Мядзел, 222397
- Мінск: Якубоўская С.А., Экалагічная гімназія №19, пр-т Пушкіна, 48 г. Мінск, 220073

Лепшыя работы будуць прадстаўлены на выставах мастацкіх работ у г. Мінску і рэгіёнах.

На кожнай конкурснай рабоце на адвароце павінны быць пазначаны імя, імя па бацьку, прозвішча, узрост, дакладны адрас і тэлефон аўтара, назва гуртка, адрас, а таксама імя, прозвішча, імя па бацьку кіраўніка гуртка і яго тэлефон, калі аўтар з'яўляецца сябрам якога-небудзь гуртка.

## Літаратурны конкурс

На конкурс прымаюцца літаратурныя работы аб'ёмам да 3-х старонак (памер кеглю 12). У мастацкай форме прапануецца расказаць пра вялікага кулёна і яго прыгоды. Вельмі важна адлюстраваць існуючыя праблемы вялікага кулёна і вытрымаць экалагічныя асаблівасці. Літаратурныя работы могуць быць падрыхтаваны на беларускай, рускай ці англійскай мовах. Узроставых абмежаванняў няма. Работы прымаюцца ў электронным выглядзе на адрас сакратарыята да 15 верасня.

## Конкурс на лепшую метадычную распацоўку, прыродаахоўную ці асветніцкую акцыю

На конкурс прымаюцца распрацоўкі ўрокаў, пазашкольных заняткаў і класных гадзін. А таксама распацоўкі эколагаасветніцкіх і прыродаахоўных мерапрыемстваў, якія могуць уключаць план, дзеянні, справаздачу, а таксама метадычнае суправаджэнне. Распрацоўкі прымаюцца да 30 мая 2011 года.

## Удзельнікам конкурсаў

Усе ўдзельнікі конкурсаў традыцыйна атрымаюць сертыфікаты ўдзельніка, а пераможцы – дыпломы і прызы. Работы аўтарам не вяртаюцца. АПБ можа выкарыстоўваць работы з указаннем аўтарства для публікацыі, а таксама выстаўляць на выставах.

Установы адукацыі і культуры, а таксама мясцовыя аддзяленні АПБ могуць праводзіць свае конкурсы па папулярызацыі ведаў пра вялікага кулёна.

## Навуковыя акцыі

У рамках кампаніі АПБ плануе выявіць даты першых прылётаў вялікага кулёна ў розных рэгіёнах, выявіць новыя месцы гнездавання, месцы згуртаванняў вялікіх кулёнаў. Калі ў Вас будуць такія назіранні – паведаміце, калі ласка, у сакратарыят АПБ.

**Руслан Шайкін,**
**спецыяліст па экалагічнай адукацыі**

## 10 фактаў пра вялікага кулёна:

1. Вялікі кулён – самы буйны кулік Беларусі, размах крылаў да 1 м.
2. Вялікі кулён мае доўгую загнутую ўніз дзюбу да 13 см даўжынёй, з дапамогай якой харчуецца насякомымі і чарвякамі, а ўвосень і ягадамі.
3. Вялікі кулён гняздуе на мохавых і асаковых балотах, лугах.
4. Як і ва ўсіх кулікоў, у кладцы кулёна 4 яйкі, якія наседжваюць абодва бацькі.
5. Самка буйнейшая за самца.
6. У Беларусі гняздуецца ўсяго 950–1200 пар. Вялікі кулён занесены ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь і Міжнародную Чырвоную кнігу.
7. Асноўныя фактары пагрозы: скарачэнне плошчы і парушэнне месцаў гнездавання ў выніку меліярацыі; паляванне за мяжой, вясновыя палы травы, турбаванне ў перыяд размнажэння.
8. Вялікія кулёны зімуюць на марскім узбярэжжы ад Галандыі да паўночнай Афрыкі.
9. Сваяк вялікага кулёна – расійскі тонкадзюбы кулён – адносіцца да самых рэдкіх птушак свету, калі ўжо не знік.
10. На розных мовах назва вялікага кулёна гучыць такім чынам:

на рускай – большой кроншнеп ("кроншнеп" у перакладзе з нямецкай мовы – каралеўскі кулік),
на нямецкай – Grosser Brachvogel,
на англійскай – Eurasian Curlew,
на польскай – Kulik wielki.


Фота Дз. Якубовіча


Фота Claus Halkjær

# Дзіцячы куток

**На малюнках вы можаце бачыць чатырох птушак – белую чаплю, шэрую гусь, сокала-пустальгу і вялікага кулёна. Праверце свае веды – знайдзіце для кожнай птушкі звычайную для яе ежу, месца пражывання і гняздо. Потым упішыце менавіта ў гэтай чарзе літары ў клетачкі, якія адпавядаюць малюнкам, і даведайцеся, што аб'ядноўвае ўсіх гэтых птушак.**

Белая чапля




Шэрая гусь




Сокал-пустальга




Вялікі кулён












































| Р | | | | Ы | |
|---|---|---|---|---|---|

| | | У | | | |
|---|---|---|---|---|---|

| Г | | | |
|---|---|---|---|

**Малюнкі падрыхтавала валанцёркаа з Аўстрыі Ханна Грабэнбергер**

## Леса для воды и водно-болотных угодий: 40-летию Рамсарской конвенции посвящается










2 февраля ежегодно во всем мире отмечается день водно-болотных угодий. Именно в этот день 40 лет назад в Иранском городе Рамсар была подписана Конвенция о водно-болотных угодьях, имеющих международное значение главным образом в качестве местообитаний водоплавающих птиц (Рамсарская конвенция). В настоящее время к Рамсарской конвенции присоединилось 160 государств, а общее число Рамсарских угодий превысило 1 900, с общей площадью 187 млн. га.

В этом году всемирный день водно-болотных угодий праздновался под лозунгом «Леса и водно-болотные угодья», так как Генеральной Ассамблеей ООН 2011 год объявлен Международным годом леса. Идея этого лозунга связана с ролью лесов в поддержании нормального баланса воды, защите берегов от эрозии и т. д. В мире много уникальных мест, где деревья растут на периодически затапливаемых или заболоченных участках: мангровые тропические леса, флоридские топи с огромными кипарисами, сосновые леса на севере. Многие из этих территорий выделены как рамсарские угодья.

Есть такие уникальные территории и в Беларуси. Беларусь присоединилась к Рамсарской Конвенции в 1991 году. Сегодня в Беларуси насчитывается 9 территорий, имеющих статус Рамсарских угодий – заказники «Споровский», «Средняя Припять», «Званец», «Олманские болота», «Освейский», «Ельня», «Котра» и «Простырь». В декабре 2010 г. Секретариат Рамсарской конвенции признал Березинский биосферный заповедник Рамсарским водно-болотным угодьем международного значения.

Для яркого и интересного празднования Международного года леса секретариат Рамсарской конвенции (www.ramsar.org) подготовил комплект информационных материалов. Один комикс из этого комплекта – о том, что мы не можем обойтись без лесов, которые играют важнейшую роль для воды, для воздуха, для климата – публикуется в этом бюллетене.

**Лидия Пшеницына, информационный помощник климатического проекта**

# Жывая вясна

Прыняць удзел у дадзеным праекце вельмі проста і цікава. Калі вы першы раз заўважыце птушак, абраных у якасці індыкатараў надыходу вясны, неабходна занесці гэтыя назіранні на спецыяльна створаны сайт www.springalive.net. Відамі, прапанаванымі для назірання, з'яўляюцца белы бусел, вясковая ластаўка, звычайная зязюля, чорны свіргуль. На гэтым сайце вы можаце даведацца больш пра гэтых птушак, паглядзець, колькі рэгістрацый зафіксавана ў кожнай асобнай краіне і Еўропе ўвогуле, пазнаёміцца з картамі іх прылёту. Калі няма доступу ў інтэрнэт ці ўзніклі складанасці з сайтам, можна патэлефанаваць у сакратарыят АПБ па тэлефонах (017) 263 06 13, (029) 223 06 13 ці (029) 101 68 87 і супрацоўнікі АПБ змесцяць вашу інфармацыю на сайце.

Сёлета да індыкатарных відаў дадаўся яшчэ адзін – шчурка-пчалаедка. Шчурка-пчалаедка – адна з самых яркіх і прыгожых птушак у Еўропе. Яна афарбавана ў сінезялёныя колеры. На галаве і верхняй частцы спіны прысутнічаюць чырвоная і аранжавая фарбы. Горла і лоб жоўтага колеру. Чорная палоска на галаве праходзіць праз краснае вока. У месцах абітання пчалаедкі назіраць за ёй нескладана, бо ў час палявання на насякомых яна часта садзіцца на правады, сухія галінкі дрэў і іншыя ўзвышаныя месцы.

### Чым адрозніваецца маладая птушка ад дарослай?

Маладыя шчуркі-пчалаедкі афарбаваны значна больш сціпла, чым дарослыя. У іх няма доўгіх цэнтральных рулявых пёраў у хвасце.

### Што яны ядуць?

Пчалаедкі ядуць галоўным чынам насякомых, якіх ловяць у палёце. Яны звычайна палююць на перапончатакрылых насякомых, часам ловяць нават стракозаў. За адзін дзень яны могуць злавіць больш за 200 насякомых.



**Шчурка-пчалаедка штогод назіраецца каля Барысава. Фота С.Левага**

### Гняздо шчуркі-пчалаедкі

Гняздзіцца шчурка на адкрытых пляцоўках з мазаічным ландшафтам, як правіла, паблізу рэк або іншых вадаёмаў. Яна будуе гнёзды на пясчаных абрывах, дзе рое норы, якія заканчваюцца гнездавой камерай.

### Зімоўка

Зімуюць шчуркі-пчалаедкі ў Афрыцы, на поўдзень ад пустыні Сахары.

### Колькасць у Беларусі

Колькасць шчурак-пчалаедак у Беларусі ацэньваецца ў 30–60 пар. Від занесены ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь. Від жыве галоўным чынам на поўдні Беларусі, але сустрэчы зарэгістраваны і ў Віцебскай і Мінскай абласцях.

Магчыма, каму-небудзь пашчасціць убачыць гэтай вясной гэтую незвычайную птушку. Абавязкова размясціце на сайце інфармацыю аб Вашай сустрэчы!

**Руслан Шайкін, спецыяліст па экалагічнай адукацыі**

# Навіны аддзяленняў

## Ахова прыроды без межаў




Вокладка брашуры

**Як вядома, прырода не мае межаў! Тым больш не прызнаюць межаў, створаных чалавекам, асобныя яе кампаненты і, у першую чаргу, птушкі. Таму ахова прыроды, а асабліва птушак, у межах асобных краін ці нават кантынентаў не заўсёды мае добрыя вынікі.**

На працягу 2009–2010 гг. Брэсцкае абласное аддзяленне АПБ разам з польскім Прыродаахоўным таварыствам "Bocian" і Заходне-Украінскім арніталагічным таварыствам удзельнічала ў рэалізацыі праекта "Прыродаахоўныя арганізацыі і энергетычныя службы Польшы, Украіны і Беларусі – разам дзеля захавання белага бусла". Спонсарамі праекта выступілі The Non-Governmental Organisations Fund Financial Mechanism і The Norwegian Financial Mechanism.

Белы бусел з'яўляецца своеасаблівым сімвалам Беларусі. Сімвалам сваіх краін лічаць бусла таксама і нашы суседзі – палякі і ўкраінцы. Белы бусел сёння, як і гістарычнае мінулае, аб'ядноўвае нашы тры краіны, тры народы.

Колькасць сусветнай папуляцыі гэтага віда ацэнена ў 230 000 пар. Амаль палова гэтай колькасці гняздуецца ў межах трох суседніх краін: Польшы, Беларусі і Украіны – разам гэта 103 842 пары. Менавіта гэтыя краіны нясуць найбольшую адказнасць за захаванне віда.

У Польшы ўжо каля 15 гадоў рэалізуецца "Праграма аховы белага бусла і пераўвільготненых тэрыторый". У рамках гэтай праграмы рэалізуюцца самыя разнастайныя праекты, накіраваныя на ахову і дапамогу белым буслам. У выніку ў межах усёй краіны захавана больш за 10 000 гнёздаў буслоў, арганізавана буйнамаштабная адукацыйная праграма, уратавана шмат параненых птушак, наладжана міжнароднае супрацоўніцтва ў галіне аховы гэтага віда.

З 2003 года ПТ "Bocian" разам з Заходне-Украінскім арніталагічным таварыствам рэалізуе міжнародную праграму па абмене вопытам аховы белага бусла, стварэнню шырокай кампаніі па ахове віда на Украіне. У 2009 годзе да сумеснай працы далучыліся эколагі і энергетыкі з Беларусі. Адбыліся дзве сустрэчы прыродаахоўнікаў і энэргетыкаў трох краін, падчас якіх энергетыкі з Беларусі ўпершыню змаглі не толькі пачуць, але і на ўласныя вочы ўбачыць, як вырашаюцца праблемы буслоў і ЛЭП у Польшы, пазнаёміцца з досведам украінцаў.

У рамках праекта створаны дакументальны фільм пра белага бусла і выдадзена брашура, прысвечаная гэтай птушцы, яе экалогіі, праблемам і пагрозам, вопыту аховы. Беларускамоўную версію брашуры хутка атрымаюць усе аддзяленні АПБ і клубы "Крылаты Дазор".

Можна ўпэўнена сцвярджаць, што семінары не прайшлі дарэмна. Ужо напрыканцы першага спаткання былі абмеркаваны накірункі супрацоўніцтва ў гэтай галіне паміж беларускімі прыродаахоўнікамі і энергетыкамі, а праз некаторы час з'явіліся першыя платформы на слупах у нашай краіне.

**Андрэй Абрамчук,**
**Брэсцкае абласное аддзяленне АПБ**

# Навіны праектаў

## В ожидании орланов...



Орлан-белохвост. Фото В. Витохина

Скорые сборы после работы, вечерний переезд в лыжную столицу Беларуси – Телеханы, короткий сон и подъем в 5.30 утра – вот что приходится переживать фотографам, рискнувшим проверить свое терпение и выдержку в семинарах-фотопленэрах. Идея реализуется АПБ в рамках проекта «Акция для орлов и людей», при поддержке программы малых грантов посольства США в Республике Беларусь.

Участники приложили много усилий, надеясь увезти кадры с орланом-белохвостом – самой крупной хищной птицей, гнездящейся в нашей стране.

Для фотоохоты были подготовлены места, где был шанс заснять орланов, а если повезет, и других обитателей леса. Фотоохотники занимали места в засидках затемно и ожидали птиц до последнего, несмотря на неподвижность, мороз или дождь.

Участники семинаров-фотопленэров первыми опробовали настоящий блиндаж для фотоохоты. Едва ли кому-то в нашей стране доводилось фотографировать из подобного сооружения. Как пошутили её строители, они постарались учесть не только требования фотоохотников, но и возможности двойного применения землянки – на случай военных учений. Приспособленный для фотосъемки сарай на заброшенном хуторе и сооруженный на канале шалаш пополнили список мест «ожидания орланов». В сильный мороз популярным местом стала наблюдательная вышка заказника «Выгонощанское», в которой не только комфортно находиться, но и высокие шансы увидеть диких копытных, услышать филина.

Несмотря на то, что первое время карты памяти фотокамер не хранили в себе кадры с орланами-белохвостами, мастерство и терпение принесли свои плоды. Первыми заветные снимки получили Валерий Коваленок и Александр Иванов. Александр показал, что мастерство гораздо важнее, чем наличие «последнего слова техники» – на обыкновенный «ультро-зум» он запечатлел двух молодых орланов. Настоящий «трофей» – взрослого орлана с седой головой добыл тренер по стендовой стрельбе Вадим Иванович Витохин – его твердая рука не дрогнула в нужный момент.

Кроме интересных кадров, общение профессионалов и любителей фотосъемки дикой природы помогло всем участникам узнать новые секреты мастерства фотоохоты.

**Ольга Лукшиц, координатор проекта**

## Приглашаем волонтеров



Болото Дикое. Фото О. Созинова

АПБ приглашает вас принять участие в учетах численности вертлявой камышевки. Полевые лагеря по проведению учетов пройдут с конца мая по начало июля 2011 года в Брестской области Беларуси.

Ставшие уже традиционными, учеты вертлявой камышевки ежегодно собирают участников как из Беларуси, так и из других стран Европы. Присоединившись к нашей команде, вы сможете посетить крупнейшие низинные болота Европы и познакомиться с их уникальным и хрупким биоразнообразием, а также внести свой посильный вклад в изучение и сохранение этих экосистем.

АПБ организует питание и проезд участников к месту проведения учетов.

**Владимир Малашевич,**
**специалист по сохранению вертлявой камышевки**

Тел: +375 17 2840943
моб: +375 29 3494165 (Velcom)
+375 29 2530575 (MTS)
malashevich@ptushki.org
www.aquaticwarbler.net

## І не толькі птушкі!



Абрад "Каляда". Фота Л. Пшеніцынай

Беларускі музей народнай архітэктуры і побыту ў в. Строчыцы Мінскага раёна, як заўсёды, гасцінна распахнуў свае дзверы для ўдзельнікаў праекта АПБ "Птушкі ўсім узростам даспадобы".

8 студзеня 2011 года, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, нашы ўдзельнікі ў поўным складзе выгрузіліся каля брамы, дзе нас ужо чакалі па-святочнаму апранутыя экскурсаводы. Прыехалі мы ў гэта цудоўнае месца, каб разам адзначыць вясёлыя зімовыя святы – Каляды. З самага дзяцінства чула я гэта загадкавае слова, уздрыгвала ад рэзкага стуку ў дзверы позним зімовым вечарам, калі калядоўшчыкі прыходзілі павіншаваць гаспадароў і пажадаць ім добрага ўраджаю ў наступным годзе. І вось зноў, як у дзяцінстве, пераапранутыя Каза і Мядзведзь спяваюць гучныя песні і запрашаюць усіх прыняць удзел у вясёлых зімовых гульнях і забавах.

Ніводзін з удзельнікаў не застаўся без увагі: нам распавялі пра таямніцу каляднай зоркі і пачаставалі галоўнай стравай свята – куццёй, паваражылі на будучыню і наладзілі міні-барацьбу самых моцных мужчын нашай кампаніі. Час праляцеў незаўважна, і вось ужо наступіў абед. Традыцыйная беларуская карчма сустрэла нас гарачым супам-капустай і дранікамі. Вось гэта сапраўднае свята!

Вясёлыя і стомленыя, мы вярталіся дамоў і нават у аўтобусе працягвалі спяваць песні. Бадзёрасцю і добрым настроем мы зарадзіліся надоўга!

**Наталля Парэчына, каардынатар праекта**

# Марки для альбатросов

Несколько лет назад организация BirdLife International начала кампанию по сбору почтовых марок в помощь альбатросам, которую в Беларуси поддержала АПБ. Кампания до сих пор действует, от нашей организации было передано несколько килограммов марок, однако по прошествии лет хотелось бы напомнить вам, зачем это надо и как это работает.

Десятки тысяч альбатросов умирают ежегодно по вине рыбаков, а вернее приспособлений, которые используются для промышленного лова рыбы. Это длинные линии крючков с наживкой, которая привлекает птиц, а потом утаскивает их на дно. Один корабль может иметь подобную линию, растянутую на 130 км и содержащую от 10 000 до 20 000 крючков. Около 100 000 альбатросов ежегодно погибает после обеда такой наживкой.



Величественные альбатросы. Фото с сайта www.bestwallpaperzone.com

Второй угрозой являются траловые сети. Альбатросы либо запутываются в сетях, либо разбиваются на лету о тросы, которые их поддерживают.

У Королевского общества защиты птиц (Великобритания) есть несколько команд, которые работают специально для решения этих проблем. Для функционирования команд, естественно, нужны ресурсы. И одним из способов сбора средств является продажа марок. В 2009 г. подобным способом было выручено £15 000. К примеру, специальное отпугивающее устройство, которое крепится к линии с крючками, стоит £50.

За один килограмм зарубежных марок можно получить £12.50, что в четыре раза больше, чем стоимость английских марок. Альбомы с марками первого дня гашения и редкие марки собираются и продаются отдельно.

**Так что ждем ваших марок!**

# Фотаконкурс АПБ – «Птушкі ў аб'ектыве»



Першае месца ў катэгорыі "Птушкі" заняў М. Верабей са здымкам "Дэманстрацыя сілы"



«Трэніроўка вока» - першае месца ў катэгорыі "Людзі". Аўтар Дз. Вінчэўскі

Запрашаем усіх жадаючых прыняць удзел у штогадовым фотаконкурсе АПБ «Птушкі ў аб'ектыве». Пачынаючы з 2010 года, конкурс праходзіць у два этапы. Першы этап – этап адбору здымкаў-фіналістаў – будзе адбывацца ў галерэі на сайце www.birdwatch.by. Для таго, каб размясціць свае здымкі ў галерэі, аўтарам неабходна зарэгістравацца на сайце. Удзельнічаць у галасаванні могуць таксама толькі зарэгістраваныя карыстальнікі сайта. На працягу кожных двух тыдняў абіраюцца найлепшыя 5 фотаздымкаў у двух катэгорыях: "Птушкі" і "Людзі" (маюцца на ўвазе людзі, якія назіраюць/ вывучаюць/ фатаграфуюць птушак). На кожны двухтыднёвы конкурс адзін аўтар можа выставіць не больш за 5 сваіх здымкаў у кожнай з катэгорый. Калі здымкаў падаецца больш, трэба ў іх апісанні пазначыць, якія работы выстаўляюцца па-за конкурсам.

Другі этап – адабраныя пяцёркі здымкаў напрыканцы года будуць ацэньвацца журы. Журы назаве пераможцаў і прызёраў фотаконкурса, выбраўшы найлепшыя работы з ліку здымкаў-фіналістаў.

Здымкі пераможцаў будуць надрукаваны і складуць выставу, якая будзе паказана на З'ездзе АПБ у студзені 2012 г. Аўтараў найлепшых фотаработ чакаюць прызы.

# Конкурсы АПБ



Емельянава Зінаіда Васільеўна пяць разоў перамагала ў конкурсе "Лепшы сябра АПБ". Фота С. Зуёнка

## Юны арнітолаг

Да ўдзелу ў конкурсе "Юны арнітолаг" запрашаюцца маладыя людзі ва ўзросце да 17 гадоў (гэта значыць, усе навучэнцы школ, гімназій і ліцэяў да 11 класа ўключна).

На працягу года праводзьце назіранні за птушкамі (аб'ектамі назірання могуць быць самыя розныя віды або групы відаў птушак). Атрыманыя дадзеныя і свае ўражанні заносьце ў палявыя дзённікі і дасылайце іх да 1 студзеня 2011 на адрас АПБ. Вітаецца наяўнасць малюнкаў і схем, а таксама акуратнасць і граматнасць вядзення дзённіка. Пасля падвядзення вынікаў конкурса дзённікі будуць вернуты, а лепшыя юныя арнітолагі атрымаюць каштоўныя прызы ад АПБ.

Далучайся да акцый і кампаній, занось свае назіранні ў дзённік і ўдзельнічай у конкурсе "Юны арнітолаг года".

## Лепшы сябра АПБ

У конкурсе "Лепшы сябра АПБ" можа прыняць удзел любы член нашай арганізацыі. Каб перамагчы, неабходна далучыць як мага больш новых членаў да арганізацыі або спрыяць прадаўжэнню членства ўжо наяўных шляхам збора ўзносаў за бягучы год. Крытэрый ацэнкі ўдзельнікаў – сума ўзносаў, што паступілі ў АПБ дзякуючы іх актыўнасці.

# АПБ в Интернете

В наших публикациях мы неоднократно ссылались на сайты нашей организации в Интернете. Это **www.ptushki.org** (официальный сайт АПБ) и **www.birdwatch.by** (сайт для любителей бердуочинга). Не забывайте, пожалуйста, заглядывать на них почаще: таким образом вы сможете получать самую свежую и полную информацию, не дожидаясь выхода очередного бюллетеня.

С недавнего времени появились странички организации в социальных сетях:

Вконтакте: **www.vkontakte.ru/club2020657** - общайтесь на интересующие вас темы с сотрудниками секретариата и другими членами организации;

Живой Журнал: **http://ahova-ptushak.livejournal.com** – оставляйте свои комментарии к новостям организации и делитесь своими «орнитологическими» дневниками;

Twitter: **www.twitter.com/ptushki** - читайте новости организации «одной строкой»;

Блог на портале TUT.by: **http://apb.blog.tut.by.**

Кроме этого, существует рассылка для любителей природы **ptushki@googlegroups.com**. Чтобы подписаться на нее, необходимо отправить запрос на **e-mail: kitel@ptushki.org.**

**До встречи в Интернете!**

В начале 2010 года общественная организация АПБ в рамках проекта "Разработка и организация биотехнических мероприятий по установке искусственных гнездовий для редких, включенных в Красную книгу, видов птиц" подготовила и выпустила реферативное издание "Рекомендации по изготовлению и установке искусственных гнездовий для водоплавающих и редких видов птиц". При подготовке главы, посвященной водоплавающим птицам, были использованы материалы А.В. Козулина, В.В. Натыканца и О.А. Островского, однако в списке использованной литературы источники информации указаны не были.

Составители сборника приносят названным авторам свои извинения за эту допущенную по вине редакции ошибку.





Ахова птушак Бацькаўшчыны
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
№ 1 (44) - 2011

**АПБ з'яўляецца нацыянальным партнёрам BirdLife International, глабальнай асацыяцыі прыродаахоўных арганізацый**

(с) АПБ, 2010 Інфармацыйны бюлетэнь
ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны",
Галоўны рэдактар: Фянчук Віктар Аляксандравіч
Рэдакцыйная рада:
Кіцель Дзяніс Аляксандравіч
Левы Сямён Васільевіч
Лукшыц Вольга Уладзіміраўна
Ціхно Кацярына Валер'еўна
Шайкін Руслан Валянцінавіч
Вёрстка: Гупянец Зміцер

№ 1, 2011 год
Рэгістрацыйны №726
ад 12.10.2009 г.
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Наш адрас:
ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны",
вул. Макаёнка, 8-313, 220114,
Мінск Беларусь
Тэл. (017) 263 01 30,
Факс (017) 263 06 13
(029) 223 06 13 МТС
(029) 101 68 87 velcom

E-mail: info@ptushki.org
www.ptushki.org
Для карэспандэнцыі
а/с 306, Мінск, 220050, Беларусь

Дзейнасць ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны" падтрымліваецца Каралеўскім Таварыствам Абароны Птушак (RSPB), партнёрам BirdLife International у Вялікабрытаніі.

Надрукавана ў друкарні УП "Данарыт".
Ліцэнзія ЛП № 02330/0494183 ад 03.04.2009.
Наклад 1000 паас.
Передрук дазваляецца пры ўмове спасылкі на "Інфармацыйны бюлетэнь"
Замова № 653.